# СВАБОДА

17 кастрычніка 1995 г.

№43

Кошт свабодны


## Дэмакраты маюць „рэфэрэндумны адказ“ прэзідэнту

**Як паведаміў нашаму карэспандэнту Станіслаў Багданкевіч, у мінулую суботу на паседжаньні Палітычнай Рады Аб'яднанай грамадзянскай партыі сярод іншых разглядалася пытаньне пра ініцыяваньне агульнабеларускага рэфэрэндуму з прыблізным пытаньнем: "Ці падтрымліваеце вы эканамічную палітыку прэзідэнта Беларусі?"**

"Калі прэзідэнт пачне ажыцьцяўляць палітычнае аб'яднаньне з Расеяй, мы павінны будзем вынесьці на рэфэрэндум некалькі пытаньняў, у тым ліку і гэтае", — падкрэсьліў С.Багданкевіч. *(Меркаваньні былога старшыні Нацыянальнага банка, лідара Аб'яднанай грамадзянскай партыі пра дачыненьні Беларусі з Расеяй чытайце на 3-й старонцы)*

**Алесь ГАНКОВІЧ**

## Зноў не паразумеліся?

**На восеньскіх выбарах у Вярхоўны Савет, якія пройдуць у 141 выбарчай акрузе, дэмакратычныя кандыдаты зноў будуць канкурыраваць ня толькі са сваімі палітычнымі апанэнтамі, але і паміж сабой. Пра гэта сьведчыць колькасьць вылучаных кандыдатаў.**

На Сойме Партыі БНФ, які адбыўся 14 кастрычніка, было вылучана 63 кандыдаты на парламанцкія выбары.

Учора, 16 кастрычніка, Рада выбарчага блоку "Сацыял-дэмакратычны Саюз", у які ўваходзяць БСДГ, ПНЗ і УАЗ, зацьвердзіла канчатковы сьпіс сваіх кандыдатаў — 80 чалавек.

Аб'яднаная дэмакратычная і Грамадзянская партыі выставілі разам 39 кандыдатаў.

Трэба ўлічыць таксама, што частка кандыдатаў ад дэмакратычных сілаў вылучаецца шляхам збору подпісаў.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**


**Захаранка гіне, але не здаецца** *стар.2*

**З.Пазьняк, С.Багданкевіч пра гандаль сувэрэнітэтам** *стар.3*

**Хто пераможа на прэзідэнцкіх выбарах у Польшчы?** *стар.3*

**Спорт** *стар.4*


**"...А вам, товарищ Тихиня, напоминаю статью 19-ю Всеобщей декларации прав человека: каждый человек имеет право на свободу убеждений, на свободное выражение их, это право включает право распространять информацию и идеи любыми способами и независимо от государственных границ".**

*(З выступу дэпутата А.Лукашэнкі на сэсіі Вярхоўнага Савету БССР 21 чэрвеня 1991 года)*

## Штрафная тэма

**У пятніцу, 13 кастрычніка міліцыя затрымала двух актывістаў Віцебскай арганізацыі БНФ Барыса Хамайду і Ўладзімера Плешчанку.**

Яны стаялі на цэнтральнай вуліцы горада з плакатам: "Сёньня лёс парушальніка Канстытуцыі прэзідэнта А.Лукашэнкі у руках Вярхоўнага Савета. Парушыў Канстытуцыю — вяртайся ў саўгас". Міліцыя спачатку забрала хлопцаў у пастарунак, а потым ў суд, дзе кожнаму з іх далі па 100 тыс. рублёў штрафу за "арганізацыю несанкцыяванага мітынгу". У якасьці сьведкі выступіў міліцыянт.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**


**Год заснаваньня 1902**
**Выходзіць з 1990**

**Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук**
**Заснавальнік Павал Жук**
**Выдавец „Газэта СВАБОДА, Ltd.“**

**Наклад 42 000**

**Адрас рэдакцыі:**
**220088, Менск, вул. Іванаўская, 56**

**Тэл./факс 36-24-41**


# Канстытуцыйны суд прыпыніў беззаконьне. Што далей?

Безумоўна, асноўнай падзеяй мінулага тыдня стала рашэньне Канстытуцыйнага Суда аб прызнаньні цяперашняга Вярхоўнага Савета легітымным і правамоцным. Па сутнасьці, вэрдыкт КС паставіў юрыдычную кропку бясконцым спрэчкам наконт "законнасьці" існуючай заканадаўчай улады. Напэўна, некаторыя палітычныя дзеячы стануць працягваць па інэрцыі дыскутаваць на ўжо закончаную тэму, але іхныя сэнтэнцыі на гэты конт будуць уяўляць інтарэс выключна для іхных жонак і палюбоўніц.

Значна больш актуальным для беларускага грамадзтва зараз выглядае зусім не рытарычнае пытаньне "што далей?". Сапраўды, лагічным працягам рашэньня Канстытуцыйнага Суда па бюджэту павінна стаць адмена прынятых прэзідэнтам даходнай і расходнай часткі бюджэту і вынас бюджэтнага пытаньня на разгляд Вярхоўнаму Савету. Увогуле, бюджэтным указам, як ніякім іншым, Лукашэнка прадэманстраваў усю цынічнасьць і крывадушнасьць сваёй палітыкі: штодня выстаўляючы сябе абаронцам народу, ён павялічвае расходы на ўтрыманьне органаў кіраваньня ў паўтары разы, на абарону — на 15 працэнтаў, на ўласную ахову — на 18 працэнтаў, а выплату сацыяльных дапамог скарачае амаль у два разы. Такім чынам, прыняцьце Вярхоўным Саветам новых бюджэтных лічбаў на апошнія месяцы года стала б, акрамя выкананьня канстытуцыйных нормаў, яшчэ і аднаўленьнем сацыяльнай справядлівасьці, вераломна парушанай прэзідэнтам.

Адразу ж пасьля рашэньня КС аб Вярхоўным Савеце Лукашэнка, трэба аддаць яму належнае, пачаў мяняць тактыку сваіх паводзінаў. Першым і найбольш характэрным для прэзідэнта дзеяньнем стала ягоная гадзінная "мужчынская размова" са старшыней Канстытуцыйнага Суда Валерыям Ціхіням. Пасьля гутаркі Ціхіня ў шпіталь ня трапіў, але пачаў ісьці на кампрамісы. Перад разглядам указу №336 (пра забарону Свабоднага прафсаюзу і адмену дэпутацкай недатыкальнасьці) начальнік дзяржаўна-прававой Управы Адміністрацыі Аляксандар Марыскін выступіў з хадайніцтвам аб прыпыненьні вытворчасьці па справе. Маўляў, прэзідэнт сам унясе ў гэты ўказ зьмяненьні і дапаўненьні. "Што тут прыпыняць, адмяняць трэба," — так адрэагаваў прадстаўнік Вярхоўнага Савету па гэтай справе дэпутат Віктар Піскароў. Аднак судзьдзі Канстытуцыйнага Суда, напэўна, вырашылі, што "на першы раз хопіць" і хадайніцтва прэзідэнта задаволілі — разгляд справы адкладзены на 30 кастрычніка.

В.Ціхіня

Спыніўшыся перад непераадольнай пакуль перашкодай у выглядзе Канстытуцыйнага Суда, Лукашэнка вырашыў папросту яе абыйсьці. Напэўна, разганяць Суд прэзідэнт ня будзе — надта прадказальнай чакаецца замежная рэакцыя, да таго ж новы Вярхоўны Савет атрымаў бы ў такім выпадку вечную падставу для ўзбуджэньня працэдуры імпічманту. Лукашэнка вырашыў распачаць гульню ў "зьмяненьні і дапаўненьні" ў свае ўказы. Між тым, дэ-факта гэта зьяўляецца публічным прызнаньнем іхнай неадпаведнасьці Канстытуцыі — прэзідэнт упэўнены, што зноў прайграе ў Канстытуцыйным Судзе, таму і вяртае свае ўказы на "дапрацоўку". Мэта — зацягнуць час і заваліць Суд контрхадайніцтвамі. Акрамя ўсяго, рашэньні КС проста ня будуць выконвацца — бяз лішняга ідэалагічнага шуму.

Адначасова разгорнецца магутная прапагандысцкая атака на невялікі і не зусім згуртаваны калектыў судзьдзяў КС. Лукашэнка ўжо заявіў на зьезьдзе прафсаюзаў: "Мы сёньня накіравалі ліст, у якім далі поўную інфармацыю Канстытуцыйнаму Суду. І калі Суд выканае свае абяцаньні, то будзе прынятае рашэньне аб тым, што разгляд указаў дэстабілізуе абстаноўку ў Беларусі". Там жа прэзідэнт распавёў пра пэўныя "плыні і тэндэнцыі", якія ёсьць у КС. Ня выключана, што зараз з носьбітамі гэтых "тэндэнцыяў" таксама пачнуць адбывацца розныя дзіўныя рэчы накшталт загадкавых аўтаварыяў...

Так што дзеяслоў, вынесены ў загаловак, падаецца мне найбольш дакладным. Менавіта не "спыніў", а "прыпыніў". Зрабіўшы мужны крок, судзьдзі КС, аднак, ня маюць часу захапляцца сваёй рашучасьцю і прынцыповасьцю. Гэта ня той варыянт, калі пасьля аднаго ўчынку на грудзі вешаюць зорку героя, а прозьвішча заносяць у энцыклапэдыі. Судзьдзям Канстытуцыйнага Суда сваю сумленнасьць давядзецца даказваць даволі часта.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

## На прафсаюзным зьезьдзе прэзідэнт паабяцаў заняцца палітычным выхаваньнем народа

**12 кастрычніка адбыўся зьезд Фэдэрацыі прафсаюзаў Беларусі, на якім выступіў прэзідэнт Лукашэнка.**

У сваім выступленьня ён заявіў, што "у праграме прэзідэнта асаблівае месца займаюць жанчыны". Па словах прэзідэнта, многадзетным і адзінокім жанчынам будзе вызначаны яшчэ адзін выходны дзень. Прэзідэнт паабяцаў таксама ў бліжэйшы час прыняць рашэньне аб мінімальнай стаўцы аліментаў. Пэнсіянэраў ён абнадзеіў тым, што падпіша распараджэньне, каб пэнсію выплочвалі не пазьней за 30 чысло кожнага месяца. Рабочым паабяцаў да 1 лістапада вырашыць пытаньне з выплатай зарплаты. "Зімою халадаць і галадаць мы ня будзем, бо нарыхтавана дастатковая колькасьць прадуктаў. Адзінае, што на сяле цяпер галадуха", — сказаў прэзідэнт.

Камэнтуючы адмену льготаў сілавым міністэрствам, ён паведаміў: "Усім міліцыянтам дадуць нумарныя знакі для праезду ў транспарце".

Аляксандар Лукашэнка заявіў, што ён вырашыў ня толькі эканамічна разьвіваць, але і ідэйна-палітычна выхоўваць народ. Прынятае рашэньне да 1 студзеня распрацаваць цэльную праграму, "каб людзі ведалі, якое грамадзтва мы будуем".

*СІМ*

## Зарплату выбіваюць праз суд

**У Свабодны прафсаюз Магілёўскага заводу "Зеніт" зьвярнуліся з заявамі ўжо звыш 100 работнікаў, каб ад іхнага імя выставіць у суд зыск да адміністрацыі прадпраемства.**

Менавіта такім чынам рабочыя спадзяюцца "выбіць" сваю зарплату за жнівень і верасень.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

**ПАРАЛЕЛІ**

# З.Пазьняк: „Гэта ўмяшаньне ва ўнутраныя справы Беларусі“

**Тэма рэфэрэндуму пра "паглыбленьне палітычнай і эканамічнай інтэграцыі" Беларусі і Расеі ўсё часьцей зьяўляецца прадметам дыскусіяў як сярод палітыкаў, так і ў сродках масавай інфармацыі. Карэспандэнт агенцтва "Павет" Галіна Прыгара зьвярнулася да лідара БНФ Зянона Пазьняка з просьбай выказаць стаўленьне да мяркуемага рэфэрэндуму.**

— Гэта тыповая правакацыя, — сказаў З.Пазьняк.— Гісторыя імпэрскай палітыкі Расеі скрозь нашпігаваная такога кшталту выпадкамі. Ім зноў хочацца праглынуць Беларусь. Яны мяркуюць, што цяпер, калі да ўлады на Беларусі прыведзены іхны стаўленік, можна дзейнічаць несаромеючыся: груба, нахабна і прасталінейна. Пасьля таго, як на травеньскім рэфэрэндуме з ганьбай на ўвесь сьвет расправіліся з беларусамі, калі нацыя быццам бы адмовілася ад сваіх гістарычных нацыянальных сымбалаў і прадэманстравала непавагу да беларускае мовы, што маральна выключыла нас з супольнасьці цывілізаваных народаў, пасьля таго, яны мяркуюць, можна рабіць што заўгодна. Тут маскоўскія палітыканы як прафэсійныя цынікі амаль не памыляюцца. Калі няма дэмакратыі, аўтарытарны рэжым можа пасьпяхова праводзіць любыя рэфэрэндумы, хоць пра павешаньне ўсёй нацыі — прагаласуюць і падтрымаюць.

Тым часам дыскусія ў Расеі, што разгарнулася вакол заявы Савету Фэдэрацыі, паказала ейны палітыканскі зьмест. Пэўныя дзеячы ў Расеі зацікаўленыя ў захопніцкіх ініцыятывах, каб на выбарах прыдбаць галасы па-імпэрску настроеных выбаршчыкаў. Гэта ўскоснае ўмяшаньне ва ўнутраныя справы Беларусі, непавага да нашае краіны. Няхай яны лепей паспрабуюць правесьці рэфэрэндум аб канфэдэрацыі з Амэрыкай ці з Кітаем. Няма чаго лезьці на Беларусь.

**— Што будзе рабіць БНФ дзеля таго, каб пазьбегнуць ліквідацыі незалежнасьці Беларусі?**

— На Беларусі палітычны крызіс улады, ўмацоўваецца аўтарытарны рэжым. Эканоміка развалена, культура прыдушана. Дзяржава ў небясьпецы.

Першы крок да выратаваньня краіны — адстаўка Лукашэнкі, галоўнай прычыны палітычнага крызісу, дзяржаўнага развалу. Калі б прэзідэнт гэта ўсьвядоміў сам і пайшоў у адстаўку, было б найлепш. Аднак, наўрад ці такое адбудзецца. Ня той узровень сьвядомасьці. Галоўнае залежыць ад стану грамадзтва, грамадзкай эліты і іншых дачыненьняў да дыктатуры і беззаконьня.

Народны Фронт прытрымліваўся і прытрымліваецца канстытуцыйных законных мэтадаў дзейнасьці. На гэтым заснаваны ягоны статут і праграма. З гэтых пазіцыяў мы ацэньваем усё, што адбываецца ва ўладзе. Мы стараемся цяпер згуртаваць усе здаровыя сілы грамадзтва на прынцыпах самакаштоўнасьці беларускай дзяржавы, ейнай свабоды і незалежнасьці, народнага дабрабыту і нацыянальных інтарэсаў краіны.

Сумленныя, здаровыя людзі павінны адстойваць законнасьць у грамадзтве, дзяржаўнасьць і правы чалавека. Цяпер настаў прыярытэт гэтых каштоўнасьцяў.

**Галіна ПРЫГАРА**, *Павет — спэцыяльна для СВАБОДЫ*

# Квасьнеўскі альбо Валэнса

**5 лістапада ў Польшчы адбудуцца прэзідэнцкія выбары. Цэнтральная выбарчая камісія канчаткова зарэгістравала 18 кандыдатаў, якія сабралі неабходную колькасьць (100 тыс.) подпісаў.**

Згодна сацыялагічным дасьледаваньням, найбольш папулярным сярод кандыдатаў зьяўляецца Аляксандар Квасьнеўскі з посткамуністычнага Саюзу левых дэмакратаў — яго падтрымлівае 30% выбаршчыкаў. Далей ідуць сёньняшні прэзідэнт Лех Валэнса і старшыня Нацыянальнага банку Ганна Гронкевіч-Вальц, якія маюць адпаведна па 18% і 12%. За іншых кандыдатаў выказваюцца менш за 10% апытаных.

Назіральнікі прагназуюць, што ў першым туры прэзідэнт ня будзе абраны. У другі тур, напэўна, пройдзе Аляксандар Квасьнеўскі, другім, відаць, будзе Лех Валэнса, які мае неафіцыйную падтрымку касьцёлу. Ганна Гронкевіч-Вальц так як і Валенса мае падтрымку правых сілаў і часткі касьцёльных біскупаў, але сёньняшні прэзідэнт зьяўляецца больш вопытным палітыкам. Некаторыя ягоны папулізм параўноўваюць з папулізмам прэзідэнта А.Лукашэнкі. Але Валэнса зьяўляецца "папулістам", які можа ўвесьці Польшчу ў эўрапейскія структуры.

**Згодна з прагнозамі, большасьць палякаў будзе галасаваць на выбарах супраць посткамуністычнага кандыдата, якім зьяўляецца А.Квасьнеўскі. Ён у другім туры можа атрымаць да 40% падтрымкі. Так што пры ўсіх недахопах Леха Валэнсы, ён можа быць паўторна абраны на прэзідэнцкі пост.**

**Уладзімер ШНУРОВІЧ**

*Прэзідэнцкі рэйтынг (першая пяцёрка)*

| | кастрычнік | верасень |
|---|---|---|
| Аляксандар Квасьнеўскі | 30% | 26% |
| Лех Валэнса | 18% | 12% |
| Ганна Гронкевіч-Вальц | 13% | 12% |
| Тадэвуш Зеліньскі | 8% | 11% |
| Яцэк Курань | 8% | 8% |

*Крыніца: Gazeta Wyborcza*

# Мітынг каля мяжы

**Дэпутат літоўскага Сэйма сп.Мялінскас 5 кастрычніка зарганізаваў мітынг у вёсцы Гадуцішкі, на якім сабралося прыблізна 150 чалавек.**

Выступоўцы ў рэзкай форме заяўлялі пра прыналежнасьць чыгуначнай станцыі з аналагічнай назвай на літоўскай тэрыторыі толькі Літве і аб непрызнаньні вынікаў перамоваў па ейным тэрытарыяльным статусе. Па заканчэньні мітынгу прысутныя пры дапамозе рыдлёвак, ламоў і кірак вырашылі разбурыць чыгуначную рампу, якая належыць Беларусі. Тым часам па-над гэтай мясцовасьцю праляцеў верталёт, у якім знаходзіўся камандуючы памежнымі войскамі Беларусі генэрал-маёр Васіль Маркоўкін. Палічыўшы, што ў верталёце знаходзіцца вялікая група памежнікаў, якіх выклікалі для разгону мітынгуючых, разбуральнікі паўцякалі.

**СІМ**

# С.Багданкевіч: „Сувэрэнітэтам не гандлююць“

"Я за тое, каб нашыя ўлады праводзілі адкрытую палітыку", — гаворыць Станіслаў Багданкевіч, маючы на ўвазе апошнія ваяжы прэзідэнта, да якіх ён ставіцца "выключна адмоўна". "Любое пытаньне спачатку павінна абмяркоўвацца хаця б ва ўладных структурах — урадзе, парламанце — і ўжо потым нейкія ідэі павінны дыскутавацца за мяжой краіны", — упэўнены былы старшыня Нацыянальнага банку.

Апошнія дзеяньні Лукашэнкі Багданкевіч ацэньвае як "спробу згуляць на рэштках ілюзіяў у пэўнай часткі грамадзянаў Беларусі, нібыта аб'яднаньне з Расеяй вырашыць нейкія эканамічныя праблемы. Гэта зусім няправільны падыход. Прадаўшы сувэрэнітэт Беларусі, мы нічога ня выйграем, улічваючы самастойнасьць суб'ектаў гаспадараньня Расеі. Мы можам аддаць сувэрэнітэт, але нічога не атрымаем узамен. Я ўжо не гавару пра дзікунства самой пастаноўкі пытаньня", — падкрэсьліў С.Багданкевіч.

Былы старшыня Нацыянальнага банку не находзіць зараз у атачэньні прэзідэнта Беларусі асобу, якая б да канца адстойвала незалежнасьць краіны. Аднак, па ягоных словах, сёньня ў Кабінэце міністраў існуе шырокае разуменьне таго, што страта сувэрэнітэту прынясе толькі эканамічныя страты і ніякай выгады, акрамя рэальнасьці адпраўленьня нашых хлопцаў на якую-небудзь бойню ў Расеі. "Думаю, у выканаўчых структурах ёсьць калектыўнае глухое супраціўленьне пэрспэктыве страты незалежнасьці. Але, на жаль, няма асобы, якая магла б сказаць пра гэта адкрыта, спаліўшы за сабою масты", — адзначыў С.Багданкевіч.

**Алесь ГАНКОВІЧ**



# Ня ўся Амэрыка гадавалася ў джынсах Jordache…

**Вы ніколі не задумваліся, чаму высокія замежныя госьці і паслы гэтак любяць выступаць у студэнцкіх аўдыторыях? Бо калі б уся Беларусь выгадавалася ў джынсах Jordache або якіх-небудзь іншых, то яе ня трэба было б пераконваць у тым, што апроч рынкавай эканомікі іншага шляху да заможнага жыцьця няма.**

Таму амэрыканскі пасол Кенэт Ялавіц, упершыню прыехаўшы ў Горадню, выступіць пажадаў менавіта ва ўнівэрсітэце. Усе яго там цудоўна разумелі, што "старая цэнтралізаваная камандная сістэма кіраваньня эканомікай ня здолела забясьпечыць эканамічны росквіт і стабільнасьць". Ніхто не аспрэчваў таксама таго, што ў пераходных краінах больш шкоды ад марудных рэформаў як ад хуткіх. Сп.Ялавіц агітаваў за тое, каб паралельна з эканамічнымі рэформамі на Беларусі ўмацоўваліся дэмакратычныя інстытуты. Досьвед паказвае, што інакш немагчыма дасягнуць посьпехаў. Першынство законаў, свабодная прэса, незалежны суд і г.д. — з усімі гэтымі ўмовамі пабудовы заможнага грамадзтва ў гарадзенскім унівэрсітэце ніхто не спрачаўся.

Поўнае паразуменьне вынікала з таго, што студэнты ня лічаць (як іхныя бацькі), што ЗША — гэта агрэсіўны, імпэрыялістычны монстар. Наадварот, яны вельмі шкадавалі, што ў Штатах навучаецца пакуль толькі два студэнты з іхнага ўнівэрсітэту. Маўляў, мы маем нашу выпускніцу Вольгу Корбут, якая стварыла ў Амэрыцы гімнастычную школу, але ў нас яшчэ хапае разумных галоваў... Дарэчы, у пасла пацікавіліся, ці праўда, што "уся Амэрыка гадавалася ў джынсах Jordache", як сьцьвярджае знакамітая рэклама. Амэрыканскі пасол зьбянтэжыўся і зьвярнуўся па дапамогу да сваёй жонкі, якая знаходзілася ў зале. На яе думку, самымі папулярнымі раней былі джынсы Levi's. Хаця сам К.Ялавіц прызнаўся, што кепска ведае жыцьцё свайго сына студэнта, які вучыцца ў палітычным унівэрсітэце штату Вірджынія. Таму ня выключана, што сёньняшняя амэрыканская моладзь ня грэбуе і джынсамі Jordache.

Адносна інцыдэнта з паветраным шарам К.Ялавіц сказаў наступнае. Калі гэта здарылася, ён знаходзіўся ў ЗША. У свой час яму давялося займацца ў Дзяржздэпартаманце расьсьледаваньнем зьнішчэньня карэйскага пасажырскага "Боінга". Абодва выпадкі, адзначыў пасол, ня маюць рацыянальнага тлумачэньня, бо загінулі бязьвінныя людзі. Цяпер працуе супольная беларуска-амэрыканская камісія. Амэрыканскі пасол спадзяецца, што пасьля заканчэньня ейнае працы беларусы змогуць зрабіць высновы аб той сістэме, што спарадзіла інцыдэнт, якім былі абураныя ўсе амэрыканцы. "У заходняй прэсе Беларусь называюць з гэтай прычыны "апошнім фарпостам халоднай вайны", але Беларусі патрэбны ў сьвеце зусім іншы імідж", — сказаў спадар Ялавіц.

У яго пацікавіліся, ці не адсюль паходзяць Яловіцы, паколькі на Гарадзеншчыне дагэтуль сустракаецца гэтае прозьвішча. К.Ялавіц адказаў, што ягоны бацька нарадзіўся ў Літве. Вось чаму ён сам адчувае, што ягоныя карані ''недзе блізка і таму з прыемнасьцю пагадзіўся працаваць у Беларусі.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

*Спорт*

# Месяц на Гаваях... Не па сваёй волі

**Сэрцы дзесяткаў мільёнаў мужчын**, якія жывуць у Эўропе, на мінулым тыдні біліся часьцей за звычайна. Нацыянальныя зборныя 36 краінаў гулялі матчы адборачнага турніру чэмпіянату Эўропы. Нашыя футбалісты выступалі ў Люксэмбургу. Спадзяваньняў на выхад у фінал чэмпіянату даўно няма, хоць іх асабліва і не было. Але мы маглі чакаць, што наша каманда пазмагаецца за чацьвёртае месца ў групе з аўтсайдарамі эўрапейскага футболу. Але вынік матчу са зборнай Люксэмбургу — 0:0. Вось ужо трэці матч беларусы ня могуць забіць супернікам аніводнага мяча. Пасьля перамогі зборнай Галандыі над камандай Мальты — 4:0, стан у нашай групе такі: Нарвэгія — 20 ачкоў, Чэхія — 18, Галандыя — 17, Люксэмбург — 10, Беларусь — 8, Мальта — 2.

12 лістапада матчам у гасьцях з камандай Мальты нашыя футбалісты закончаць сваё выступленьне ў сваім першым афіцыйным турніры.

А пуцёўкі ў Англію, дзе з 8 па 30 чэрвеня 1996 г. пройдзе фінальная частка чэмпіянату Эўропы, фактычна завявалі зборныя Расеі, Баўгарыі, Нямеччыны, Харватыі, Італіі, Швайцарыі, Турэччыны, Шатляндыі, Партугаліі, Францыі, Румыніі, Гішпаніі і Даніі. Вядома, будуць там і гаспадары — ангельцы.

**Зусім непрадказальная гульня нацыянальнай мужчынскай зборнай па баскетболу.** Пасьля паразы ад Босьніі і Гэрцагавіны — 59:80, яны сэнсацыйна перамаглі ў гасьцёх чацьвёртую каманду Эўропы зборную Грэцыі — 82:77. І гэта, нагадаем, у адсутнасьць пяці мацнейшых баскетбалістаў. Лепшымі былі Валеры Дайнэка — 25 ачкоў і Руслан Байдакоў — 18, якія выступаюць за маскоўскае "Дынама". Дарэчы, кіруе гэтым клубам менчук Аляксандар Барысаў, які зьяўляецца галоўным трэнерам нашай нацыянальнай каманды.

**"Цівалі" працягвае сваю ўнікальную бязвыйгрышную сэрыю.** Два апошнія матчы ў Маскве яны прайгралі "Крылам Саветаў" — 2:6 і "Спартаку" — 2:4. У нашых, як і раней, 1 ачко і апошняе месца ў Заходняй канфэрэнцыі МХЛ.

**Хакеіст „Ottava Senators" Аляксей Яшын,** нязгодны з умовамі фінансавага кантракту з гаспадарамі клубу, вярнуўся ў Маскву і намераны выступаць за ЦСКА. Гэтаму, аднак, перашкаджаюць уладальнікі "Атавы", уласнасьцю каторай зьяўляецца Аляксей. Нагадаем, што па выніках мінулага сэзону Яшын увасходзіў у дзясятку найлепшых форвардаў НХЛ.

**Анатоль Карпаў абвінавацію** прэзыдэнта Міжнароднай фэдэрацыі шахмат (ФІДЭ) Флярэнсія Кампаманэса ў тым, што той знаходзіцца ў змове з Гары Каспаравым і не жадае прыкладаць намаганьняў для арганізацыі ягонага матча з Гатам Камскім (ЗША). Кампаманэс, у сваю чаргу, абвінаваціў Карпава ў велізарных матар'яльных прэтэнзіях, а бацька Камскага Рустам лічыць, што яны абодва робяць усё магчымае, каб адхіліць ягонага сына ад барацьбы за сусьветную шахматную карону.

**Натальля Зьверава прайграла** ў чвэрцьфінале тэніснага турніра ў Філдэрсварце (Нямеччына) амэрыканцы Чандзе Рубін.

**Месячнае турэмнае зьняволеньне на Гаваях** адбывае расейскі трэнер па плаваньні Генадзь Турэцкі. Такое пакараньне яму прысудзіў суд за хуліганства падчас авіяпалёту. Апошнія тры гады Турэцкі, настаўнік двухразовага алімпійскага чэмпіёна Аляксандра Папова, жыве і працуе ў Аўстраліі. Дарэчы, саюз аўстралійскіх плаўцоў адхіліў Турэцкага ад працы з нацыянальнай зборнай за гэты благі ўчынак.

Падрыхтаваў
**Сямён ПЛОЦ**

# Холад ня цётка

**З надыходам зімы можа зноў павеяць халадком расчараваньня выбаршчыкаў. Цяпер ужо з прычыны камунальных паслугаў.**

Кабінэт міністраў прыняў рашэньне "забясьпечыць з кастрычніка індэксацыю ставак кватэрнай платы і тарыфаў на аказваемыя насельніцтву камунальныя паслугі ў адпаведнасьці з пастановай Кабінэта міністраў ад 7 ліпеня 1995 г.". Гэта значыць, што з пачаткам ацяпляльнага сэзону за стандартную 3-пакаёвую кватэру, дзе жыве чатыры чалавекі, давядзецца плаціць 307 тысяч рублёў.

Сямейны бюджэт ужо даўно страціў імунітэт перад эканамічнай хваробай у краіне. Спэцыялісты Міністэрства камунальнай гаспадаркі лічаць, што летні сэзон больш-менш вытрымалі. Паводле іхных папярэдніх дадзеных, у тэрмін не змаглі заплаціць за кватэру толькі 27% насельніцтва краіны. Самая большая колькасьць даўжнікоў (36%) у Менскай вобласьці. Відавочна, што з пачаткам ацяпляльнага сэзону неплацельшчыкаў стане болей. Сам урад прызнае, што "сур'ёзныя праблемы з аплатай жыльлёва-камунальных плацяжоў ва ўстаноўленыя тэрміны ўзьнікаюць з прычыны нестабільнасьці атрыманьня зарплаты на прадпрыемствах". У Міністэрстве камунальнай гаспадаркі рыхтуецца загад "да 7 лістапада прыняць рашучыя меры да неплацельшчыкаў па спагнаньні запазычанасьцяў". Тым часам дзеючае заканадаўства прадугледжвае толькі адну меру: у прымусовым парадку з дапамогай суда вылічваць плату за кватэру з зарплаты. Але што возьмеш з беспрацоўных альбо з тых, каму выплочваюць сімвалічны заробак у 200—300 тыс. рублёў.

Праект новага жыльлёвага кодэксу (арт.128) прадугледжвае больш суворую меру пакараньня — высяленьне з кватэры (з прадастаўленьнем грамадзянам іншага жыльля больш нізкай якасьці). Такое пакараньне мяркуецца прымяняць да тых, хто на працягу шасьці месяцаў запар без уважлівых прычынаў ухіляўся ад кватрплаты і платы за камунальныя паслугі. Але гэта пакуль што толькі праект. Самымі актыўнымі неплацельшчыкамі зьяўляюцца пэнсіянэры і маламаёмасныя сем'і. Для такіх катэгорыяў насельніцтва прадугледжаныя субсыдыі. Але, як паказвае практыка, за апошнія тры месяцы па іх зьвярнулася зусім невялікая колькасьць жыхароў — каля 3%. У Міністэрстве камунальнай гаспадаркі чакаюць, што з пачаткам ацяпляльнага сэзону па субсыдыі зьвернуцца каля 35% жыхароў. Аднак здараецца, што атрымаць субсыдыю вельмі складана нават тым, хто мае на яе права.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

*Кошты ацяпляльнага сэзону*

| Кватэра | кошт (руб.) |
|---|---|
| 1-пакаёвая 20 м.кв. 2 чалавекі | 155 000 |
| 2-пакаёвая 30 м.кв. 3 чалавекі | 225 000 |
| 3-пакаёвая 43 м.кв. 4 чалавекі | 307 000 |

*Запазычанасьць насельніцтва па кватрплаце і камунальных паслугах на 1 кастрычніка гэтага году*

| | |
|---|---|
| Берасьцейская вобл. | 25% |
| Віцебская вобл. | 33% |
| Гомельская вобл. | 32% |
| Гарадзенская вобл. | 33% |
| Магілёўская вобл. | 18% |
| Менская вобл. | 36% |
| Менск | 26% |

# КДБ шукае выдаўца „Лукашенской правды"

**Як стала вядома СІМ, па даручэньні Пракуратуры Рэспублікі КДБ вядзе актыўныя пошукі выдаўца газэты "Лукашенская правда" і аўтара публікацыі "Sex под куполом".**

У публікацыі расказваецца пра сэксуальныя прыгоды цяперашніх кіраўнікоў дзяржавы. Гэтыя зьвесткі, на думку пракуратуры, ганьбяць гонар і годнасьць высокіх асобаў нашай дзяржавы, у тым ліку і прэзыдэнта. Выдаўцу "Лукашенской правды" і аўтару скандальнай публікацыі пракуратура хоча "прышыць" артыкул Крымінальнага кодэксу, які прадугледжвае пакараньне папраўчымі работамі на тэрмін да 1 года або штрафам.

Адначасова КДБ працягвае пошукі Ведзьмака Лысагорскага — аўтара знакамітай паэмы "Лука Мудзішчаў — прэзыдэнт".

**СІМ**

# Грыбнікоў знаходзяць мёртвымі

**На працягу пяці сутак супрацоўнікі міліцыі, вайскоўцы ды мясцовыя жыхары прачэсвалі ў Мёрскім раёне лясы.**

Рэч у тым, што 30 верасьня побач з дарогай знайшлі матацыкал з грыбамі ў калясцы, а грыбнікоў побач не было. Пэнсіянэраў зь Мёраў Веру і Васіля Вайсковічаў знайшлі мёртвымі на адной з выспаў пасярод балота. Ускрыцьце паказала, што сьмерць наступіла ад пераахаладжваньня.

Гэта ўжо ня першы выпадак сьмерці грыбнікоў. 14 сутак праляжаў у лесе каля станцыі Лужкі грыбнік з Воршы. Ён памёр ад сардэчнай недастатковасьці. Да гэтага часу міліцыя шукае (прачэсваньне лясоў і балотаў у Мёрскім раёне працягваецца) старшыню калгасу "Маладая гвардыя". Апошні раз яго бачылі 26 верасьня. Ягоны аўтамабіль УАЗ-469 з ключыма на сядзеньні 29 верасьня знайшлі ля дарогі.

**СІМ**

# Недалёка і да СНІДу

**У Івацэвіцкім раёне назіраецца рэзкі рост вэнэрычных ды скурных захворваньняў.**

За 9 месяцаў гэтага году зарэгістравана 37 выпадкаў захворваньня на пранцы (сіфіліс), што ў 4 разы больш як за ўвесь мінулы год. Пачасьціліся выпадкі захворваньня на ганарэю — 63 і каросту — 99. Па словах намесьніка галоўнага лекара мясцовага дыспансэра М.Вакуліч, катастрафічна не хапае лекаў, шпрыцоў, праблема з чыстай бялізнай.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

# Аддайце грошы!

**Польская фірма "Раска" зьвярнулася ў беларускую амбасаду ў Варшаве па дапамогу ў вяртаньні 43 тыс. даляраў.**

Гэтыя грошы палякам завінавацілася магілёўская фірма "Інвест Магілёў", якая не разьлічылася за пастаўлены абутак.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Пераход дырэктара праз Альпы

**Загадам па аддзелу культуры Кобрыньскага гарвыканкаму за прагулы без уважлівых прычынаў звольнена з працы дырэктар мясцовага ваенна-гістарычнага музэя імя Суворава Ніна Плiско.**

Без адпаведнага дазволу яна на некалькі дзён кінула працу і накіравалася ў Нямеччыну ды Швайцарыю. Дырэктарскі кабінэт апячаталі, а ў музэі прызначана рэвізія.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

# Плошча гвалтаўнікоў

**Жыхарка Навапалацку К. зьвярнулася ў міліцыю з заявай, што яе згвалцілі на плошчы Будаўнікоў.**

Падобныя факты ў міліцэйскіх зводках фігуруюць часта, але гэтым разам нават міліцыянты былі зьдзіўленыя. Рэч у тым, што плошча Будаўнікоў — цэнтральная ў Навапалацку.

**Васіль КРОКВА**

# „Тутэйшыя" у сьвятле рэфэрэндуму

**Вядомы спэктакаль "Тутэйшыя", які ўжо шмат гадоў ідзе на сцэне тэатра імя Янкі Купалы ў Менску, зараз атрымаў як бы "другое дыханьне".**

Што ж здарылася з пастаноўкай, якая на думку акторраў, апошнімі гадамі паціху страчвала былую папулярнасьць?

Нібыта нічога. І ўсё ж дзіўныя рэчы адбываюцца. Першае ж прадстаўленьне "Тутэйшых" у новым тэатральным сэзоне паказала, што п'еса зноў гучыць як ніколі актуальна. Гэтым разам поўная зала апладзіравала купалаўцам з асаблівым захапленьнем, а зьяўленьне ў фінальнай сцэне бел-чырвона-белых сьцяжак гледачы сустрэлі стоячы і шквалам працяглых авацыяў.

Цікава адзначыць, што палову залы складалі вучні менскіх школаў, якія звычайна паводзяць сябе ў тэатры шумліва. Аднак у гэты вечар увагай і ўдзячнасьцю маладых гледачоў купалаўцы засталіся задаволеныя. Атрымліваецца, што абыякавых "тутэйшых", пра якіх з болем і пагардай пісаў Купала, сярод "дзяцей рэфэрэндуму" ўсё менш.

**Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ**





Нац.сьвядомы менчук (28/186/80) вельмі прывабны, шчыры, працавіты, в/а, прадпр., бяз шкодных звычак, шукае падобную дзяўчыну (Цялец, Дзева, Рак, Казярог). Пазначце дату нарадж. 220064, Менск—64, а/с 448.



Падпісны індэкс 63887. Нумар падпісаны ў друк 16.10.95 (12.00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы „Чырвоная зорка" (г.Менск, 1-шы Загарадны завулак, 3). © СВАБОДА Спасылка на газэту СВАБОДА абавязковая. Наклад 42 000
ЛВ №10 Заказ 3067